# ГОЛАС ЧАСУ

1998 г.
СТУДЗЕНЬ
10
СУБОТА
№ 2 (5729)
Цана 1000 руб.

Грамадска-палітычная газета Маларыцкага раёна. Выдаецца з 2 жніўня 1945 года.




**На Каляды.**

**Фота Аляксея ГАНЧУКА.**

*5 студзеня 1919 года пастановай Часовага рабоча-сялянскага ўраду Беларусі быў створаны народны камісарыят сацыяльнага забеспячэння, на які ўскладвалася работа па арганізацыі і ажыццяўленні сацыяльнай падтрымкі насельніцтва. З гэтага часу ў рэспубліцы пачала дзейнічаць дзяржаўная сістэма сацыяльнай абароны.*

*Згодна з Указам Прэзідэнта РБ ад 29 мая 1997 года ўстаноўлена свята - Дзень работнікаў сацыяльнай абароны. 5 студзеня 1998 года прадстаўнікі гэтай службы ўпершыню адзначылі сваё прафесійнае свята. Віншуем!*

**SOS!**

## ДАВАЙЦЕ НЕ ПАКІНЕМ У БЯДЗЕ СВАЮ 11-ГАДОВУЮ ЗЯМЛЯЧКУ!

Самае страшнае ў жыцці для кожнага з нас гэта тое, калі хварэюць нашы дзеці. Здаецца, усё аддаў бы, каб толькі яны былі здаровенькімі. Толькі лёс, калі табе наканаваны ім менавіта пакуты, нікога і нічога слухацца не хоча. Колькі б яго ні маліў, колькі б ні прасіў, колькі б слёз ні праліваў.

Маленькая прыгажуня Ірачка не магла не радаваць сваіх родных. Як і ўсе дзеці, расла, весялілася, хадзіла ў школу, добра вучылася. А вось аднойчы, калі настаўнік фізкультуры прапанаваў дзецям хадзіць па канаце, Ірачка адмовілася, матывуючы тым, што ў яе баліць ручка і яна не можа. А ў хуткім часе і родныя пачалі прыкмячаць, што з малой нешта не тое. Бабуля, прыслухоўваючыся да сваёй жыццёвай мудрасці, вопыту, падазравала, што ў Ірынкі, магчыма, вывіх. Толькі ўрачы, правёўшы дыягнастычнае абследаванне, паставілі дыягназ свой, на жаль, страшны: злаякасная пухліна. І праз некаторы час Ірынку накіравалі ў абласны анкалагічны дыспансер. Прайшоўшы там пэўны курс лячэння, дзяўчынка вярнулася дадому. Але ў хуткім часе хвароба зноў дала аб сабе ведаць. Цяпер ужо Ірыну трэба было адпраўляць у рэспубліканскі цэнтр па лячэнні анкалагічных хворых, які знаходзіцца ў Бараўлянах. І вось ужо на працягу доўгага часу (а гэта больш чым год) дзяўчынка праходзіць лячэнне там.

Аб станоўчым пакуль гаварыць не даводзіцца. Ды і самі ўрачы нічым пакуль абнадзеіць не могуць. А хвароба, верагодна, калі нават і прыпыніла сваё развіццё, у любы час можа заявіць пра сябе зноў.

Да ўсяго, для лячэння 11-гадовай Ірыны Бойкі (а 16 студзеня ёй споўніцца менавіта столькі) патрэбны грошы. Пакуль што ўвесь цяжар па дапамозе вытрымлівае на сабе бабуля Вера Васільеўна Дрозд. Але на яе адну пенсію (1 мільён рублёў) вельмі не разгонішся.

x x x

...Вера Васільеўна Дрозд прыйшла ў рэдакцыю не з мэтай папрасіць дапамогі ва ўсіх нас, сваіх землякоў, а з тым, каб шчыра падзякаваць педагагічнаму калектыву трэцяй гарадской школы, бацькам вучняў яе, асабіста дырэктару Івану Барысавічу Шышуку, педагогам са школы-садка, што знайшлі магчымасць і падтрымалі сям'ю Бойкаў, Ірынку ў прыватнасці, матэрыяльна. І ад імя сябе, і ад імя маці Ірынкі, ад імя яе сястры Юлі Вера Васільеўна прасіла, каб рэдакцыя павіншавала гэтых добрых і шчырых людзей з каляднымі святамі. І вельмі прасіла пажадаць усім ім добрага здароўя, толькі прыгожых пачуццяў у душы і добрых спраў наогул. Няхай ніколі не турбуюць іх думкі аб сваіх дзецях, няхай усе яны будуць здаровенькія самі.

**АД РЭДАКЦЫІ.** Вельмі хацелася б, каб мы, землякі 11-гадовай Ірыны Бойка, праявілі міласэрнасць і не пакінулі ў бядзе дзяўчынку. Справа ў тым, што ў хуткім часе ёй плануецца вельмі складаная аперацыя, для правядзення якой патрэбны грошы.

Калі ласка, калі ў вас ёсць хоць нейкая, хоць нават маленькая магчымасць не застацца ўбаку, не застаньцеся! Дзеці ёсць у кожнага з нас. Ці будуць у кожнага з нас. І не дай Бог, каб яны, ці нехта з нас, бацькоў, апынуліся ў падобнай сітуацыі, у якой цяпер знаходзяцца Ірынка і яе родныя.

Грошы можна накіроўваць на адрас: г. Маларыта, вул. Кірава, 7. Дрозд Веры Васільеўне (для хворай Ірыны). Ды зберажэ вас Бог!

**Наш кар.**

**БУДЗЕМ СЯБРАМІ!**

Застаўся ззаду 1997-ы. Мы жывём цяпер ужо ў годзе Тыгра. Будзем спадзявацца, што ён прынясе нам прыемныя нечаканасці, толькі светлыя і радасныя палосы ў нашым жыцці. А пачалі новы год мы з добрым настроем. Прынамсі, мы, журналісты «Голасу часу», таму што нашага палку, як гаворыцца, прыбыло. Вы, нашы паважаныя чытачы, найперш за ўсё прыўзнялі нам настрой, застаўшыся вернымі «Голасу часу». Мы ўдзячны і сваім новым прыхільнікам: у параўнанні са студзенем мінулага года чытачоў у нашай газеце стала на 400 больш. Думаем, што і яны будуць цяпер нашымі пастаяннымі сябрамі.

Шчыра прызнацца, журналісты «ГЧ» хваляваліся: ці ўсе са старых падпісчыкаў застануцца з газетай, ці з'явяцца новыя? І тыраж, які павялічыўся адчувальна, паказаў, што рэйтынг «раёнкі» не ўпаў, што ў нас, мяркуючы па білетах удачы, якія вы даслалі ў рэдакцыю і якія, дарэчы, хутка будуць разыграны ў латарэі, ёсць многа прыхільнікаў, як у горадзе, так і на вёсцы. Дзякуй!

У новы год прынята ўступаць з новымі планамі. «Раёнка», як вядома, жыве ўжо 53-ці год. За гэты час журналістамі назапашаны вялікі вопыт, набыты багаты багаж адлюстравання жыцця раёна. Таму мы не збіраемся выкідваць са свайго багажу тое, што выпрабавана дзесяцігоддзямі. Думаем, што яно і цяпер спадабаецца нашым чытачам і парадуе іх. Варта толькі адзначыць, што сёлета на старонках газеты з'явяцца новыя рубрыкі, такія, як «Вечныя каштоўнасці», «SOS», «Жыццё не звысоку», «Чытач просіць умяшацца», «Газетчыкаў праігнаравалі», «На крытыку пакрыўдзіліся», «Закон бяссільны, пакуль маўчыць сумленне» і іншыя.

Сёлета зноў у рэдакцыі будуць арганізаваны «прамыя лініі» з кіраўнікамі адказных службаў, спецыялістамі райвыканкама, якім вы зможаце задаць свае пытанні.

Зразумела ж, будзем вельмі рады і вашым заўвагам, прапановам, якія дапамогуць палепшыць змест і твар газеты.

А пакуль яшчэ раз усіх са святамі і да рэгулярных сустрэч на старонках «Голасу часу». Будзем сябрамі!

**Ніна СВІЦЮК, адказны сакратар рэдакцыі.**

**ТАК ВОСЬ!**

## АДНАВІЛІСЯ ЗАНЯТКІ Ў НЯДЗЕЛЬНАЙ ШКОЛЕ

Пасля некаторага перапынку зноў аднавіліся заняткі ў нядзельнай школе пры Хаціслаўскай царкве.

Яе на гэты раз наведваюць 17 слухачоў - у асноўным школьнікі 5, 8 класаў. Ёсць, праўда, некалькі і дзевяцікласнікаў.

Як і слухачы папярэдняга выпуску, школьнікі вывучаюць па спецыяльнай праграме Закон Божы, гісторыю Новага і Старога Запаветаў.

Цікава, што з былых выпускнікоў-старшакласнікаў 1 чалавек, а гэта Сяргей Яўтушык, стаў слухачом Мінскай духоўнай семінарыі. Астатнія - працягваюць вучобу ў старэйшых класах.

**Наш кар.**

**ПРЫЕМНАЕ**

## ПЕРШЫЯ Ў ГОД ТЫГРА

Летась у раёне нарадзілася 259 хлопчыкаў і дзяўчынак. Гэта менш, чым у папярэднім.

У навагоднюю ноч і першага чысла ў радзільным аддзяленні райбальніцы было зацішша. А вось пад вечар, 2 студзеня, у 19.05 у Іны Рыгораўны Кірыковіч з Маларыты нарадзілася цудоўная дачушка і стала, зразумела, першым немаўляткам у нашым раёне, якое з'явілася на свет у год Тыгра. З днём нараджэння цябе, пакуль яшчэ безыменная, і шчасця ў жыцці. А вось літаральна праз 5 хвілін таго ж дня, у 19.10 прагукаў сваё вітанне году Тыгра трохкілаграмовы малыш Таццяны Васільеўны Касцючык з вёскі Заазёрная.

А наогул, за першыя пяць дзён студзеня ў аддзяленні нарадзіліся чацвёра немаўлятак - дзве прадстаўніцы слабога полу і два прадстаўнікі моцнага. Хлапчук, якога нарадзіла Ала Віктараўна Бідзюра з Сушытніцы, важыў 3 кілаграмы 850 грамаў - ледзь не багатыр, а дзяўчынка, якая з'явілася ў сям'і маларытчанкі Наталлі Міхайлаўны Струнец, была вагой 3 кілаграмы 310 грамаў. Гэтыя малышы сталі галоўнымі падарункамі ў сем'ях. Традыцыйныя Дзед Мароз са Снягуркай павіншавалі шчаслівых маці. Да гэтых віншаванняў далучаемся і мы - падрастайце, малыя, хутчэй.

**Ніна СВІЦЮК.**

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА



Сардэчна віншуем **Ніну Несцераўну ЖОХ** з днём нараджэння.

Сегодня день не для печали, должны быть песни, смех, цветы. Чтоб поздравления звучали - ведь в этот день родилась ты. Желаем мы не видеть бед, не знать ни горя, ни несчастья, чтоб хватило на сто лет здоровья, радости и счастья.

**З павагай калектыў Маларыцкага РКБА.**

❀ ❀ ❀

Дарагую **Ларысу Мікалаеўну ПЛЯХАНАВУ** віншуем з 25-годдзем!

Пусть в жизни будет все, что нужно, чем жизнь бывает хороша, - любовь, здоровье, счастье, дружба и вечно юная душа!

**Бацькі.**

❀ ❀ ❀

Віншуем дарагога і любімага мужа, бацьку і дзядулю **Васіля Іванавіча ПІШЧЫКА** з юбілеем!

Храни тебя судьба от мрака и несчастья, от злого языка и сильного недуга. И дай тебе Господь, коль это в его власти, здоровья, долгих лет и много-много счастья.

**З павагай жонка, дзеці і ўнукі.**

**МІЛАСЭРНАСЦЬ**

## ДЗЯКУЙ ТАБЕ, ДАБРАЧЫННАЯ ЁЛКА

Мне было вельмі прыемна, калі мяне з сынам-трэцякласнікам запрасілі напярэдадні Новага года на дабрачынную ёлку ў сярэднюю школу N 3. Колькі радасці даставіла яна дзецям-інвалідам, многія з якіх былі на калясках, дзецям з малазабяспечаных сем'яў. Дзякуй арганізатарам, якія папрыдумвалі нашым дзеткам розныя цікавыя конкурсы, гульні, за што яны атрымлівалі прызы. Дзяцей нашых пакармілі смачнымі абедамі, а Дзед Мароз са Снягуркай раздалі навагоднія падарункі. А яшчэ, як і многія маці, я была кранута тым, што на ёлку прыйшоў і старшыня райвыканкама Аляксандр Няхаеў.

Дзякуй усім, што нас не забылі, што даставілі столькі яскравых і запамінальных хвілін дзецям.

**Валянціна КАЦЁЛ, маларытчанка.**



*У гэтыя святочныя дні повару рэстарана «Рыта» Лідзіі Аксенцьеўне Тарасюк даводзіцца працаваць з падвоенай нагрузкай - вельмі многа наведвальнікаў, якім прыемна пасядзець і адпачыць разам з сябрамі, знаёмымі, калегамі, разам адзначыць юбілей, дзень нараджэння і г.д. І ўсім ім прыемна пачаставацца стравамі, якія рыхтуе гэты высакакласны спецыяліст. У Лідзіі Аксенцьеўны 5 разрад повара, яна распрацавала шэраг уласных фірменных страў. А працуе жанчына тут, на адным месцы, вось ужо 27 гадоў. І гэта бясспрэчна пацвярджае тое, што чалавек па-сапраўднаму любіць сваю справу.*

***НА ЗДЫМКУ: повар рэстарана «Рыта» Лідзія ТАРАСЮК.***

**Фота Аляксея ГАНЧУКА.**

**СЕМІНАРЫ**

# З ЛЕЙКОЗАМ ЖЫВЁЛЫ НЕАБХОДНА ЗМАГАЦЦА І ПЕРАМАГЧЫ ЯГО

Чарговы семінар па жывёлагадоўлі, які праводзіўся на базе калгаса «Перамога», быў прысвечаны праблеме захворванняў жывёлы лейкозам. Месца правядзення яго было вызначана не выпадкова. Ветспецыялісты названай гаспадаркі, яе кіраўніцтва ў сваёй рабоце ўдзялілі вялікую ўвагу пытанню барацьбы з гэтай небяспечнай для жывёлы хваробай. Вялікую дапамогу ім аказаў загадчык аддзела дыягностыкі і барацьбы з лейкозам рэспубліканскай дзяржветлабараторыі Мінсельгасхарчу РБ кандыдат ветэрынарных навук Аляксей Адамавіч Русіновіч, які таксама быў на семінары. Пры непасрэдным удзеле ці наглядзе гэтага спецыяліста ўсе мерапрыемствы ў калгасе «Перамога» праводзіліся вельмі дакладна і навукова абгрунтавана. Канечне, для гэтага трэба было нямала часу і намаганняў, але вынік варты таго. Лейкоз жывёлы ў гаспадарцы адступіў.

Мэтай семінара было паказаць на прыкладзе калгаса «Перамога» іншым гаспадаркам раёна, што з лейкозам можна і неабходна змагацца. Неабходна яго ў самы бліжэйшы час перамагчы, каб такая важная галіна сельскагаспадарчай вытворчасці, як жывёлагадоўля, больш не пакутавала ад гэтага. Таму што калі не будзе здаровай жывёлы, то і не будзе малака і мяса. Усе пытанні ў жывёлагадоўлі ўзаемазвязаныя і іх неабходна вырашаць разам.

Семінар, на які, акрамя ветспецыялістаў, былі запрошаны заатэхнічная служба, кіраўнікі гаспадарак, пачаўся з наведвання фермы ў в. Лазіца. Тут вырошчваюць цялушак для ўзнаўлення статка. На малочнатаварным комплексе ў в. Дварышча спецыялісты паказалі аэразольную дэзінфекцыю паветра для цялят, выкарыстанне гашанай вапны ў жывёлагадоўчых памяшканнях. Удзельнікі семінара наведалі тут таксама прыфермскую ветэрынарную аптэку і пункт штучнага асемянення жывёлы. Усё гэта знаходзіцца на малочнатаварным комплексе ў належным стане і парадку. Наведалі ўдзельнікі семінара і малочнатаварную ферму ў в. Олтуш, памяшканне, дзе знаходзяцца толькі серастаноўчыя цялушкі. Тут жа знаходзіцца ветаптэка, пастэрызатар для абясшкоджвання малака і далейшага выпойвання яго маладняку. Карацей, захоўваюцца ўсе неабходныя патрабаванні. Непадалёку ад фермы знаходзіцца таксама ўчастковая ветэрынарная аптэка, у якой ёсць неабходныя прэпараты і спецыяльная літаратура. І ўсё гэта ёсць тут не проста для паказу, а выкарыстоўваецца ў непасрэднай практычнай рабоце.

Затым удзельнікі семінара сабраліся на падвядзенне вынікаў работы. Напачатку выступіў старшыня райвыканкама Аляксандр Няхаеў. Ён сканцэнтраваў увагу на тым, што ў нашым раёне прыкладна 30 працэнтаў лейкознай жывёлы. Нягледзячы на гэта, ў некаторых гаспадарках да цяперашняга часу не надаецца належная ўвага барацьбе з небяспечнай хваробай жывёлы. А калгасы губляюць з-за гэтага мільёны і мільярды грошай.

З дакладам «Аб ходзе прафілактыкі лейкозу за мінулы год і планах на будучы» выступіў кандыдат ветэрынарных навук Аляксей Русіновіч. Ён яшчэ раз падрабязна расказаў аб этапах тэхналогіі аздараўлення жывёлы. Старшыням калгасаў былі раздадзены спецыяльныя папкі на гэты конт. Кожны з этапаў з'яўляецца вельмі важным, і толькі правільнае выкананне іх усіх разам можа прынесці жадаемы вынік. Усім прысутным былі паказаны схемы аздараўлення буйной рагатай жывёлы ад лейкозу ў калгасе «Перамога», таксама графік дыягнастычных даследаванняў, шмат іншага.

Галоўны ветэрынарны ўрач раёна Марыя Бабёр, выступаючы перад удзельнікамі семінара, удзяліла ўвагу калгасам, сярэдні паказчык па лейкозу ў якіх вышэйшы за раённы. А такіх калгасаў нямала. Вось хаця б некаторыя з іх: «Зара», «40 гадоў БССР», «Бальшавік», «Дружба», «Чырвоны партызан», «Новы шлях» і інш. На жаль, ветэрынарная служба ў гэтых гаспадарках, за рэдкім выключэннем, працуе пакуль вельмі і вельмі слаба. Але галоўнае, што на прыкладзе калгаса «Перамога» усе пераканаліся: атрымліваць вынікі магчыма. У дадзены момант, як заверыла галоўны ўрач, ёсць усе неабходныя прэпараты, трэба толькі іх выкарыстоўваць, захоўваючы правільную тэхналогію аздараўлення жывёлы.

Прыйшлося таксама на семінары трымаць адказ ветэрынарным службам, спецыялістам калгасаў, у якіх становішча з лейкозам найбольш складанае.

Як адзначыў пры падвядзенні вынікаў работы семінара начальнік райсельгасхарчу Казімір Лапіч, нельга недаацэньваць ветэрынарную службу ў справе жывёлагадоўлі і неабходна з гэтага здабыць ўрок.

Хацелася б, каб такім станоўчым урокам у практычнай рабоце для спецыялістаў стаў і праведзены раённы семінар па барацьбе з лейкозам жывёлы.

**Сяргей МОШЧЫК.**

•КВЗ

# СВЯТА ДОБРАГА НАСТРОЮ

У той вечар ужо загадзя ў зале ПТВ пачалі збірацца гледачы. Сярод іх навучэнцы, выкладчыкі, майстры, госці і г.д. Практычна ўжо з самага пачатку стала зразумелым - месц усім не хопіць. Прайшоў год з часу правядзення тут фестывалю гумару і смеху. Быў ён тады яскравым і запамінальным. Таму ў гэтым годзе ўсе чакалі яшчэ большага. І, трэба сказаць, навучэнцы, тыя хто дапамагаў арганізаваць праграму КВЗ, яе жарты апраўдалі надзеі гледачоў. Таму адразу хочацца назваць людзей, без якіх гульня не атрымалася б такой. Гэта вядучы Пётр Дзьячук, музычныя кіраўнікі Уладзімір і Віктар Галавіі, намеснік дырэктара Уладзімір Няфёдаў, метадыст вучылішча Надзея Грыгарук, выкладчыца музычнай школы Кацярына Уласенка, рэжысёры і іншыя работнікі Дома культуры, дапамагала ў афармленні сцэны і дэкарацый Наталля Літвінюк і іншыя. Усім ім вялікі дзякуй.

...І вось самая напружаная хвіліна, і пасля доўгага чакання на сцэне з'яўляецца нязменны вядучы вучылішчнага КВЗ, наогул усіх забаўляльных праграм Пётр Дзьячук. Зала ўзрываецца апладысментамі, і на сцэну выходзяць каманды: «Віг-Вам» і бізнес-шоп - група «Грэнькоўская акадэмія».

Першым турам гульні, як вядома, з'яўляецца прывітанне. Тут камандам трэба было паказаць, як гаворыцца, сваю візітную картку - прадставіць сябе і свой імідж. З пастаўленай задачай выдатна справіліся абедзве каманды. Ігракі «Віг-Вама» выступілі ў якасці індзейцаў. Іх жарты былі вельмі дасціпнымі і датычыліся ўсіх, як кажуць, пачынаючы з дырэктара і заканчваючы дворнікам. Ігракі «Грэнькоўскай акадэміі» імкнуліся нічым не ўступаць сваім сапернікам. Таму яны нават збудавалі са сваіх цел «манументальную статую». Абедзве каманды заслужана атрымалі за конкурс «прывітанне» максімальную колькасць балаў. Усе члены журы ацанілі выступленні толькі на пяцёркі.

Не менш цікавым быў другі конкурс праграмы. Ён называўся «размінка». У ім кожная з каманд рыхтавала па 4 цікавыя пытанні сваім сапернікам і рыхтавала таксама свае варыянты адказаў. Прычым, сапернікам трэба было адказаць на пытанні і трапна, і хутка. І каманды, што называецца, былі на вышыні, паказалі добрае ўменне арыентавацца ў раптам узнікшай сітуацыі і ацэньваць яе вагой гумару. І ўсё ж у час гэтага конкурсу больш удалося развесяліць публіку сваімі адказамі камандзе «Віг-Вам». Пасля размінкі, хоць і нязначную, але ўсё ж перавагу ў ачках атрымала менавіта гэтая каманда. Ігракі шчыра радаваліся няхай і невялікаму, але першаму поспеху.

Наступны конкурс «Музычны марафон» заўсёды праходзіць у КВЗ весела і займальна. А гэтым разам тым больш. Таму што на сцэне з'явіліся не абы-хто, а самыя што ні ёсць «зоркі». У камандзе «Віг-Вам» - кабарэ-дуэт «Акадэмія», а ў «Грэнькоўскай акадэміі» - самы папулярны эстрадны дуэт - Ала Пугачова і Піліп Кіркораў. Вось дзе ўжо было месца фантазіі і выдумцы! І таму ў час выступлення «зорак» чуліся ў зале самыя моцныя апладысменты гледачоў і асабліва груп падтрымкі. Выступленні абедзвюх каманд былі цудоўнымі, але ўсё ж, хоць і крышачку, але зноў адчувалася перавага каманды «Віг-Вам».

Цікавым і змястоўным быў і конкурс капітанаў. Сяргей Дэц і Аляксандр Грыцук паказалі сапраўдную кемлівасць і знаходлівасць. Папярэдне ім, відаць, дапамагалі і тыя, хто дапамагаў рыхтаваць выступленне КВЗ вучылішча, але, напрыклад, таго ж артыстызму ім у той вечар было не займаць. Ды і тэма была цікавай: «Што я ўбачыў у вучылішчы, калі прыйшоў сюды 1 верасня?» А выступленне Аляксандра запомнілася яшчэ і тым, што ў яго расказ увайшлі, зразумела ж, у сатырычнай форме, бадай, усе прозвішчы выкладчыкаў і майстроў, наогул работнікаў вучылішча. Апладысменты былі самымі працяглымі. Што датычыць капітана «Віг-Вама», то ён таксама падрыхтаваў добрае выступленне.

Не менш займальным атрымалася ў аматараў гумару і дамашняе заданне. «Якімі ж стануць выпускнікі вучылішча праз 10 гадоў?» - такой была новая тэма конкурсу. У камандзе «Віг-Вам» пераважала тэма «новых» і звычайных людзей. Тут «сустрэліся» праз 10 гадоў нават стрыптызёрша і перадавая даярка. Так парознаму скл аліся лёсы былых сябровак. Каманда дапоўніла таксама сваё выступленне пародыямі на агульнавядомыя песні і тэлеперадачы. Напрыклад, запомнілася «маска шчырасці», якую выканала Наталля Чыкіта. Навучэнцы пераклалі нават песню «На белым пакрывале студзеня» на «Не праганяй нас, хабза» і выканалі яе вельмі шчыра. Так што сапраўды адчувалася, што ім не хочацца развітвацца праз пэўны час з любімым, а так можна сказаць, вучылішчам. Наогул, выступленні былі напоўнены зразумелымі словамі і думкамі, падзеямі з жыцця вучылішча. Таму гэта было добра вядома ўсім і гэтак жа добра ўспрымалася. Каманды свабодна адчувалі сябе на сцэне, не баяліся жартаваць нават па самых «жыццёвых» пытаннях.

Цікавым было выступленне на гэтую тэму каманды «Грэнькоўскай акадэміі». На вакзале сабраліся выпускнікі, якія закончылі вучылішча 10 гадоў назад. Сярод іх таксама самыя розныя людзі, але іх падарожжа пралягае па знаёмых месцах, у вучылішча, дзе шмат што змянілася. Засталіся, бадай, толькі нязменнымі некаторыя выкладчыкі, майстры, ды засталася такой жа моцнай любоў да вучылішча. Навучэнцы пафантазіравалі наконт пашырэння музеяў вучылішча. Напрыклад, у іх будуць галошы самага вялікага памеру і самага высокага за гісторыю вучылішча навучэнца, і баян, на якім любіў іграць у вучылішчы былы дырэктар Васіль Карпавіч Каляда, якога навучэнцы, выкладчыкі і майстры і зараз памятаюць і любяць, нягледзячы на тое, што ён працуе ў іншым месцы. І яшчэ ў гэтым музеі ў звычайным шкляным слоіку «захаваецца» голас неперапраўзыдзенага вядучага КВЗ вучылішча Пятра Дзьячука. Гэта і было прадэманстравана (у запісе, вядома ж). У музеі, на думку вясёлых і знаходлівых, будзе таксама галерэя васковых фігур. У ёй зоймуць сваё месца вядомыя зараз у вучылішчы асобы. Якія канкрэтна? Іграки ўдала прадэманстравалі гэта на сцэне.

Наогул, калі падводзіць вынікі, то можна сказаць, што ў час КВЗ увесь вечар гучалі на сцэне вострыя жарты, а ў зале смех. Атрымалася сапраўднае свята добрага настрою. Каманды не стамляліся жартаваць, а гледачы біць у далоні і чуць не надрываць жываты ад смеху. Мусіць, самы скептычны і сур'ёзны чалавек у той вечар і той ўсміхнуўся б. Прыемна, што ў вучылішчы сабралася шмат гасцей, былых навучэнцаў. І нават у час такіх сустрэч адчуваецца сапраўдная настальгія па вучобе і жыццю ў вучылішчы. Таксама як адчувалася гэта ў час выступленняў каманд.

У сваім заключным слове члены журы дзякавалі ўдзельнікам гульні за падораны цудоўны вечар гумару і смеху, за працу ў час падрыхтоўкі да яго. І хоць было няпроста вызначыць пераможцу, але ён, як кажуць, павінен быць адзін. З невялікай перавагай пераможцам гульні КВЗ стала ўсё ж каманда «Віг-Вам». Іракоў яе чакалі цудоўны стол, падарункі і апладысменты.

А заключным нумарам у такіх выпадках ужо стала традыцыяй выконваць усім разам - удзельнікам гульні і гледачам - песню «Маё лякарства і выратаванне - КВЗ», напісаную спецыяльна для правядзення гульняў клуба. Пад яе можна было нават патанцаваць, што і зрабілі ўсе ўдзельнікі гульні.

- Мы хочам сказаць «бывай», але нешта трымае нас», - ёсць у гэтай песні такія словы. Няхай жыве вучылішчны клуб вясёлых і знаходлівых, а заканчэнне гульні азначае ў будучым толькі новыя сустрэчы.

**Сяргей МОШЧЫК.**

## КАЛЯНДАР РЫБАЛОВА

# СТУДЗЕНЬ - ЛЮТЫ

Зіма. Вадаёмы скаваны лёдам, пакрыты снежнай коўдрай. У параўнанні са снежнем рыба бярэцца горш. У вадзе рэзка паменшала кіслароду. Акрамя рыбы, яго паглынаюць рэшткі рознай воднай расліннасці, што гніюць у гэты час. Рыба пакідае бедную на кісларод ваду, а ў некаторых месцах нават гіне.

Пад лёдам яна амаль не харчуецца. Толькі ў проточных вадаёмах, а таксама ў вадаёмах, дзе шмат крыніц, а, значыцца, спрыяльны кіслародны рэжым, працягвае карміцца.

У студзені на камяністых і галечных участках вадаёмаў пад лёдам пачынае нераставаць мянтуз. У гэты час ён добра ловіцца ноччу доннай вудай на жыўца - пячкура, ярша.

Увогуле, зімою ўжываюцца розныя спосабы аматарскай лоўлі рыбы. Пры лоўлі паплаўковай вудай адпадае неабходнасць у доўгім вудзільне. Да вудзільна прымацоўваецца матавільца для намотвання лёскі. Каб замацаваць лёску на тонкім канцы вудзільна, на яго надзяваецца кавалачак ніпельнай гумкі, які забяспечвае своечасовую сігналізацыю, калі рыба бярэцца. Паплавок зімовай вуды павінен быць вельмі адчувальны, трымаць яго трэба з дапамогай грузільца пад вадой, а не на паверхні, бо інакш ён будзе умярзаць у лёд. Форма паплаўка, звычайна, цыліндрычная або конусападобная. Замацоўваецца ён пры дапамозе тонкага дроту такім чынам, каб можна было перасоўваць па лёсцы.

Вага і памеры грузільца залежаць ад спосабу лоўлі, хуткасці цячэння вады і г.д. Ловячы зімовай паплаўковай вудай «у адвес», абмяжоўваюцца грузікам у адну або некалькі свінцовых дробінак. Гэтым спосабам часцей за ўсё ловяць рыбу ў стаячай вадзе, а таксама ў час адліг.

Выкарыстоўваючы спосаб лоўлі «са дна», ужываюць больш цяжкія грузікі ў форме алівкі. Прынада можа быць розная: хлеб, кашо, чарвяк. Аднак лепшай лічыцца матыль.

Усё большую цікавасць выклікае ў апошні час зімовая лоўля рыбы стаўковым спосабам на жыўца, у якасці якога выкарыстоўваюцца плотка, ёрш, пячкур. Гэтым спосабам асабліва добра ловяцца шчупак і окунь.

Аднак найбольш распаўсюджаным спосабам зімовай лоўлі рыбы з'яўляецца лоўля на мармышку. Мармышка - гэта невялікі металічны грузік з кручком. Формы мармышак практыкуюцца самыя разнастайныя, але месца мацавання лёскі заўсёды змешчана ад цэнтра ў бок патоўшчанай часткі, таму што мармышка павінна трымацца ў вадзе ў гарызантальным становішчы.

Аднолькава паспяхова можна выкарыстоўваць мармышкі як светлых, так і цёмных тыпаў. Аднак рыбалову-аматару пажадана мець некалькі розных па колеру і вазе мармышак, бо ў адных вадаёмах рыба лепш ловіцца на светлыя, а ў іншых - на цёмныя.

Для лоўлі на мармышку можна выкарыстоўваць тое ж вудзільна, што і для лоўлі з паплаўком, але з больш тонкай лёскай. Тым не менш, захапляцца вельмі тонкай лёскай не варта, бо на мармышку бярэцца даволі часта буйная рыба.

Рыба бярэцца на мармышку вельмі асцярожна, амаль непрыкметна, таму рыбаловы ў такіх выпадках карыстаюцца так званым «кіўком». На тонкі канец вудзільна надзяваецца ніпельная трубачка, якая заціскае ў гэтым месцы лёску, а свабодны канец трубачкі, выгінаючыся пад цяжарам мармышкі, здольны перадаваць нават самыя асцярожныя рухі. Ужываюцца таксама шчацінкавыя, пружынныя і іншыя «кіўкі».

Добрыя вынікі дае лоўля на мармышку, калі на яе кручок насаджваюцца матыль або маляўка. Ловіцца на мармышку розная рыба, але найбольш часта бяруцца окунь, ялец, плотка, галавень, ёрш, гусцера.

Захапляючыся рыбалкай, асабліва ў пачатку студзеня, не забывайце аб мерах засцярогі, бо лёд у гэты час недастаткова моцны.

**В. СТОМА, біёлаг.**



## МЯНЯЮЦЦА РАХУНКІ

*ПРБА «Брэстаблдарбуд» паведамляе прадпрыемствам, арганізацыям, калгасам, саўгасам, установам, аб'яднанням, якія з'яўляюцца плацельшчыкамі адлічэння ў дарожныя фонды, аб змяненні з 1.01.98 г. разліковых рахункаў:*

*- адлічэнні сродкаў карыстальнікамі аўтамабільных дарог (разліковы рахунак N 3642600004508 у 801 філіяле АСБ «Беларусбанк», код 246);*

*- адлічэнні ад даходаў па эксплуатацыі аўтамабільнага транспарту - 2 працэнты (разліковы рахунак N 3642600004511 у 801 філіяле АСБ «Беларусбанк», код 246).*

## КОНКУРС ДЛЯ ЗНАТАКОЎ

# 8-Я АЛІМПІЯДА ПА МАТЭМАТЫЦЫ

Адбыліся ўжо два туры рэспубліканскай завочнай матэматычнай алімпіяды, якую праводзяць Міністэрства адукацыі РБ, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Іўеўская сярэдняя школа з паглыбленым вывучэннем матэматыкі сумесна з рэдакцыямі газет.

Паведамляем адказы да заданняў другога тура: 391,5, 392. Выгадней пакласці грошы на 3 месяцы, потым яшчэ, яшчэ і яшчэ раз на 3 месяцы; 393. Правільны дроб бліжэй (злева) да 1; 394, 189 т; 395. Калодзеж патрэбна выкапаць у любым пункце адрэзка, які злучае два сярэднія дамы; 396, (А+2)(А-3) Х=А+2; 397. Усіх пар 28; 398. Кошт брыльянта найбольш знізіцца, калі часткі будуць роўнымі; 399,9 частак першага сплава і 35 - другога; 400. Шукаемы адрэзак роўны старане трохвугольніка, падзеленай на квадратны корань з 2; 401. Лагарыфмы вынайшлі незалежна адзін ад аднаго матэматыкі шатландзец Д. Нэпер і швейцарац І. Бюргі; 402. Простыя лікі шырока выкарыстоўваюцца ў крыптаграфіі і абароне сістэм сувязі ад несанкцыяніраванага ўмяшання. Самы вялікі вядомы просты лік - 1257786-я ступень двойкі мінус 1 (знойдзены амерыканскімі матэматыкамі з дапамогай суперкамп'ютэра «Крэй-Т94); 403, 22,95 с; 404, 2 долары; 405. 968; 406. Напрыклад, на першай гарызанталі паставім Р, З, М, А, на другой - А, М, З, Р, на трэцяй - З, Р, А, М, на чацвёртай - М, А, Р, З; 407. Праз 147 с; 408. 21 прамую.

Безумоўна, колькасць набраных балаў удзельнікамі алімпіяды пастулова папаўняецца. Кампетэнтнае журы належным чынам ацэньвае ўсе атрыманыя работы, а вынікі спаборніцтва апублікуе пасля ўсіх 4-х яго тураў. Нагадаем, што пераможцаў чакаюць узнагароды і цікавыя прапановы. Пакуль жа конкурс-турнір па рашэнню матэматычных задач працягваецца. Не прапусціце магчымасць паўдзельнічаць у наступным яго туры!

**Трэці тур**

409. Кажуць, што ў 19 стагоддзі кожны дзесяты мужчына зваўся Іван, а кожны дваццаты - Пётр. Калі гэта так, то каго было тады больш: Іванаў Пятровічаў ці Пятроў Іванавічаў?

410. Трохзначны лік з першай лічбай 2 запісалі падрад 1997 разоў і атрымаўся лік, які дзеліцца на 91. Чаму роўны трохзначны лік?

411. Якіх лікаў больш сярод першага мільёна: тых, у запісе якіх сустракаецца адзінка, або тых, у запісе якіх яе няма?

412. Па дарозе з лесу ў пасёлак спяшаюцца Чырвоная Шапачка і воўк, а насустрач ім ідуць бабуля і паляўнічы. Скорасць зближэння ваўка і бабулі 18 км/г, Чырвонай Шапачкі і бабулі - 8 км/г, а скорасць зближэння паляўнічага і Чырвонай Шапачкі - 12 км/г. З якой скорасцю зближаюцца воўк і паляўнічы?

413. Вучань задумаў натуральны лік, які з'яўляецца дакладным квадратам, здабыў з яго квадратны корань, прыбавіў 2, зноў здабыў квадратны корань, зноў прыбавіў 2 і ў выніку атрымаў задуманы лік. Які лік ён задумаў?

414. Складзіце і рашыце няроўнасць, якой задавальняюць лік 3 і лікі з мностваў: (-3; -2) і (5; 8).

415. Дзве прамыя перпендыкулярныя старане К Н трохвугольніка К М Н, дзеляць гэты трохвугольнік на тры роўнавялікія часткі. Вядома, што адрэзкі гэтых прамых, заключаныя ўнутры трохвугольніка, роўныя паміж сабой і роўны старане К Н. Знайсці вуглы трохвугольніка К М Н (2 выпадкі).

416. Унутры трохвугольніка А В С знайсці пункт О, для якога здабытак даўжынь перпендыкуляраў, апушчаных з пункта О на стораны трохвугольніка, дасягае найбольшага значэння.

417. Няхай прамая У=КХ+В праходзіць праз два цэлалікавыя пункты, г. зн. пункты з цэлымі каардынатамі. Ці вынікае з гэтага, што на ўказанай прамой знойдзецца бясконцае мноства цэлалікавых пунктаў?

418. Як з квадрата атрымаць разгортку тэтраэдра, зрабіўшы толькі адзін прамалінейны разрэз?

**Дадатковыя пытанні:**

419. Мова для зносін з пазаземнай цывілізацыяй (як толькі яна паявіцца) ужо распрацавана, і зрабіў гэта матэматык. Назавіце яго прозвішча.

420. Кім і з якімі мэтамі быў створаны такі важны для інжынераў раздзел прыкладной матэматыкі, як нарысная геаметрыя?

421. Што такое эйлерава характарыстыка мнагагранніка? Ці можаце вы прывесці прыклад такога мнагагранніка, для якога яна не роўна 2?

**Задачы для малодшых школьнікаў**

422. Колькі складаемых сумы 1+2+3+... патрэбна ўзяць, каб атрымаць трохзначны лік, які складаецца з аднолькавых лічбаў?

423. ...І сказаў Здыхлік Неўміручы Івану-царэвічу: «Жыць табе да заўтрашняга дня. Ранкам з'явіцца прад маімі вачыма, задумаю я тры лічбы - А, В, С. Назавеш ты мне тры лікі - Х, У, Т. Выслухаю цябе і скажу, чаму роўна сума АХ+ВУ+СТ. Тады адгадай, якія А, В, С я задумаў. Не адгадаеш - галава прэч». Дык якія ж Іван-царэвіч павінен назваць Х, У, Т, каб адгадаць затым А, В, С?

424. Прыдумайце сямізначны лік, першая лічба якога паказвае колькасць нулёў у яго дзесятковым запісу, другая - колькасць адзінак, трэцяя - колькасць двоек, ..., сёмая - колькасць шасцёрак.

425. Шахматную дошку з 3 гарызанталямі і 3 вертыкалямі абходзяць ладдзёй і па шляху яе руху пішуць адзін за другім лікі: 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9. Знайдзіце шлях ладдзі, пры якім трохзначны лік, атрыманы ў трэцяй гарызанталі, роўны суме трохзначных лікаў, атрыманых у першых двух гарызанталях.

426. У блоку 10 запалкавых карабкоў. Як знайсці дыяганаль аднаго карабка з дапамогай толькі звыклай лінейкі (указаць спосаб вымярэння дыяганалі)?

*Кожнае заданне гэтага тура ацэньваецца ў 6 балаў. Свае рашэнні, утрымліваючыя разгорнутыя тлумачэнні адказы, накіроўвайце на адзін з адрасоў:*

*231330, Гродзенская вобласць, г.п. Іўе, вул. 50 гадоў Кастрычніка, 25, сярэдняя школа, журы алімпіяды па матэматыцы, трэці тур;*

*220050, г. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 4, БДУ, факультэт прыкладной матэматыкі і інфарматыкі, Задворнаму Б. В.;*

*220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 9, Міністэрства адукацыі, Гаравой Н. Ф., старшыні журы алімпіяды па матэматыцы.*

*Умовы задач не перапісвайце, укажыце толькі іх нумары. Не забудзьцеся паведаміць дату апублікавання прыведзеных заданняў. На іх выкананне даецца 20 дзён. Затым будзе прапанаваны апошні тур сёлетняй алімпіяды. Сачыце за газетай! Усім жадаем поспехаў!*

**Вацлаў КОТ,**
**нам. дырэктара Іўеўскай СШ.**

## АД ШЧЫРАГА



## СЭРЦА

Паважаныя **Таццяна** і **Аляксандр ДАЦЫКІ**!

З самым ганаровым званнем вас - званнем Мамы і Бацькі! Ад усяго сэрца жадаем вам, каб вы праз усё сваё жыццё дастойна пранеслі гэтае званне, а каб ваша родная крывіначка, дачушка, расла здаровенькай, была добрай, уважлівай і чулай.

Няхай Зорка, пад якой яна з'явілася на свет, акажацца шчаслівай, а яе жыццёвая дарога - лёгкай і прыгожай.

**З павагай калектыў рэдакцыі райгазеты «Голас часу».**



## ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ ✝

**Праўленне і прафсаюзная арганізацыя калгаса «Першае мая» смуткуюць з выпадку заўчаснай смерці СЫМОНІКА Уладзіміра Міхайлавіча і выказваюць шчырае спачуванне родным і блізкім памёршага.**

**Праўленне і прафсаюзны камітэт калгаса «Запаветы Леніна» глыбока смуткуюць з выпадку смерці КІВАЧУКА Анісія Ануфрыевіча і выказваюць шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў работнікаў Маларыцкай ПМК-8 трэста «Брэстводбуд» выказвае спачуванне інжынеру-дыспетчару Бурдзе Канстанціну Мікалаевічу з выпадку напаткаўшага яго гора - смерці МАЦІ.**

**Жыльцы 2-га пад'езда дома нумар 100 па вул. Савецкай выказваюць глыбокае спачуванне Бурдзе Канстанціну Мікалаевічу з выпадку напаткаўшага яго гора - смерці МАЦІ.**

**Калектыў настаўнікаў, вучняў і работнікаў Олтушскай сярэдняй школы выказвае глыбокае спачуванне вучню 10-га ліцэйскага класа Чыкіце Сяргею з выпадку напаткаўшага яго гора - смерці БАЦЬКІ.**

**Класны кіраўнік і аднакласнікі выказваюць глыбокае спачуванне вучню 10-га ліцэйскага класа Олтушскай сярэдняй школы Чыкіце Сяргею з выпадку напаткаўшага яго гора - смерці БАЦЬКІ.**

**Класны кіраўнік, вучні 7-га «А» класа СШ N 3 і іх бацькі выказваюць глыбокае спачуванне Батурыну Юры з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора - трагічнай смерці БАЦЬКІ.**

**Выказваем глыбокае спачуванне Батурынай Ларысе Уладзіміраўне з выпадку напаткаўшага яе цяжкага гора - смерці БАЦЬКІ. Памятай, што ў гэты цяжкі для цябе час, - мы з табой.**

Калег.

НЕКАЛЬКІ ПЫТАННЯЎ КАМПЕТЭНТНАЙ АСОБЕ

# ДЭКЛАРАЦЫІ ДАВЯДЗЕЦЦА ПРАДСТАЎЛЯЦЬ МНОГІМ З НАС

***Згодна з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце на 1997 год» устаноўлена вылічэнне падаходнага падатку з даходаў фізічных асоб, зыходзячы з іх сукупнага даходу.***

***Таму грамадзянам у новым, 1998 годзе, у тэрмін да 15 лютага (і ніяк не пазней) у абавязковым парадку трэба будзе прадставіць дэкларацыю аб даходах за 1997 год у падатковую інспекцыю.***

***Некаторыя нюансы гэтага працэсу карэспандэнт рэдакцыі высветліла ў начальніка аддзела падаткаабкладання фізічных асоб інспекцыі Дзяржаўнага падатковага камітэта па Маларыцкім раёне Ірыны РУСАВУК.***

***- Ірына Аляксандраўна, удакладніце, калі ласка, хто належыць рэгістрацыі ў якасці плацельшчыкаў падаткаў і прадстаўляе дэкларацыі?***

- Па-першае, грамадзяне, якія атрымалі ў 1997 годзе акрамя заработнай платы па асноўным месцы работы іншыя даходы, напрыклад, па дагаворах грамадзянска-прававога характару, па сумах аўтарскіх узнагароджанняў, а таксама грамадзяне, якія не мелі асноўнага месца работы і атрымлівалі даходы больш чым ад аднаго суб'екта гаспадарання (ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы).

Усе гэтыя грамадзяне прадстаўляюць дэкларацыю толькі ў тым выпадку, калі іх гадавы сукупны даход перавысіў 19 мільёнаў 400 тысяч рублёў.

***- А фізічныя асобы, якія атрымалі ў справаздачным годзе даходы ад прадпрымальніцкай дзейнасці?***

- Фізічныя асобы, якія атрымалі ў справаздачным годзе даходы ад прадпрымальніцкай дзейнасці, якую ажыццяўлялі без утварэння юрыдычнай асобы, а таксама іншыя, па якіх падатак вылічваецца непасрэдна падатковымі органамі (здача ў наём памяшканняў, арэнда), падаюць дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе незалежна ад памеру атрыманага імі даходу.

***- Хто не прадстаўляе дэкларацыю?***

- Гэта грамадзяне, якія мелі выплаты толькі па месцы асноўнай работы за выкананне імі сваіх непасрэдных працоўных абавязкаў альбо прыраўнаваных да іх даходаў, незалежна ад атрыманай сумы.

***- А калі выявіцца розніца паміж вылічанай сумай падаходнага падатку і той, што была фактычна заплачана на працягу года?***

- Розніца належыць уплаце ці вяртанню назад. Прычым, не пазней, як 15 сакавіка.

***- Дэкларацыі, вядома ж, будуць запаўняцца на стандартных бланках. Дзе іх можна атрымаць?***

- Бланкі дэкларацый і кансультацыі па іх запаўненні можна атрымаць бясплатна ў інспекцыі Дзяржаўнага падатковага камітэта ў кабінетах N 37 і N 44. Усе астатнія даведкі вам дадуць па тэлефонах 21-4-76 і 21-5-73.

***- Такое пытанне, Ірына Аляксандраўна. Не выключана, што нехта не пажадае прадставіць дэкларацыю ці несвоечасова яе запоўніць.***

- У такім выпадку грамадзяне нясуць адказнасць, якая прадугледжана заканадаўствам.

**Запісала Ірына ГУСЬКО.**

ЖЫЦЦЁ РЭСПУБЛІКІ

## ВЫНІКІ ВЫКАНАННЯ БЮДЖЭТУ ГЭТАГА ГОДА АБНАДЗЕЙВАЮЦЬ

Аб папярэдніх выніках эканамічнага развіцця краіны ў 1997 годзе і бюджэце на наступны год паведаміў міністр фінансаў Беларусі Мікалай Корбут на сустрэчы з журналістамі, якая адбылася ў нацыянальным прэс-цэнтры.

- Папярэднія паказчыкі даволі нядрэнныя і апярэджваюць прыняты прагноз, - сказаў міністр. - Пры гэтым валавы ўнутраны прадукт узрасце больш чым у два разы. Будзе забяспечаны рост аб'ёмаў вытворчасці, практычна выкананы мерапрыемствы па сацыяльнай падтрымцы насельніцтва.

Даволі ўстойлівыя паказчыкі эканамічнай бяспекі дзяржавы. Паводле дадзеных, якія прывёў Мікалай Корбут, знешні доўг дзяржавы на канец 1997 года склаў 970 мільёнаў долараў і ён захаваецца амаль што на ўзроўні 1996 года. Унутраны доўг павялічыўся за год больш чым на сем трыльёнаў рублёў, што складае чатыры працэнты ўнутранага валавога прадукту. У міжнароднай жа практыцы ён вагаецца ад 43 працэнтаў, напрыклад, у Аўстрыі, да 24 працэнтаў у Фінляндыі і 22 - у Германіі.

Што датычыць узроўню дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту, то ён, паводле папярэдняй ацэнкі, складае крыху больш за два працэнты.

Мікалай Корбут падкрэсліў, што даходы рэспубліканскага бюджэту перавысяць узровень 1996 года больш чым у два разы. У немалой ступені паступленні ў бюджэт забяспечвалі рост аб'ёмаў вытворчасці, скарачэнне стратных прадпрыемстваў, павышэнне рэнтабельнасці.

**БЕЛТА.**

АДРАСЫ ДОБРЫХ СПРАЎ

# У ТУРНІРЫ БЫЛА НАВАТ МІС ЯГО

Вось ужо 9-ы год у ПТВ-155 праходзіць спартыўны турнір па міні-футболу ў гонар памяці былога выпускніка вучылішча Івана Такарчука, які загінуў у Афганістане.

Мінулагодні, што праходзіў у снежні, сабраў 17 каманд-удзельніц. Праўда, да фіналу дайшлі толькі 12, а да фінішу - усяго толькі 9.

Як і ў любых спаборніцтвах, пераможцамі сталі самыя моцныя і самыя спрытныя. А гэта каманды юнакоў «Юніёр» і «Аловак», каманда дзяўчынак «Вікторыя».

І вось літаральна за некалькі дзён да Новага года ў кінатэатры «Радзіма» сабраліся амаль усе ўдзельнікі турніру, балельшчыкі, каб папрысутнічаць на падвядзенні вынікаў спартыўнага спаборніцтва, паапладзіраваць пераможцам, якім уручалі ганаровыя прызы і прэміі.

Дарэчы, за некалькі гадоў, на працягу якіх праходзіць турнір у вучылішчы, было ўпершыню, каб вынікі падводзіліся менавіта такім чынам, можна сказаць, ва ўрачыстай абстаноўцы.

І наогул, у мінулагодняга турніру было шмат адметнасцей. І хоць бы такая з прыемных: у 1997, як і ў 1996, спонсарам спартыўных спаборніцтваў, акрамя самога вучылішча і райспорткамітэта, выступіла і раённая асацыяцыя воінаў-інтэрнацыяналістаў. Менавіта старшыня яе Уладзімір Пятрухін, як і выкладчык вучылішча Аляксандр Лядзінскі, прыйшлі на падвядзенне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод пераможцам.

Самы ганаровы прыз - пераходны кубак, які быў зацверджаны яшчэ летась, атрымала каманда «Юніёр», абсалютны пераможца турніру. Юнакі набралі 30 ачкоў і сталі першымі.

На другім месцы аказалася каманда «Аловак», якая таксама была ўзнагароджана падарункамі і грашовай прэміяй.

Прыемна было бачыць у якасці лепшых і мацнейшых і каманду «Вікторыя», у якой гулялі толькі адны дзяўчынкі. Яны таксама атрымалі падарункі і прэмію.

Не забылі арганізатары турніру і пра лепшых ігракоў. Непераўзыдзеным варатарам аднадушна была прызнана Аксана Яцура з той жа «Вікторыі». А вось сярод абаронцаў не знайшлося роўных Радыёну Мазуру, як сярод нападаючых - Сяргею Карнафелю.

Адметна, што арганізатары футбольных спаборніцтваў не забылі і пра самых-самых не толькі ў гульні непасрэдна, але і ў паводзінах, знешняй абаяльнасці і г.г.

Міс турніру стала Ірына Абрамчук з каманды «Ніка». А самым абаяльным, самым прывабным сярод юнакоў быў прызнаны Алег Дацык. І Ірына, і Алег таксама атрымалі ганаровыя ўзнагароды.

Што зусім не бывае ў вялікім футболе, арганізатары турніру вырашылі своеасаблівымі падарункамі (гэта згодна з умовамі спаборніцтваў) заахвоціць і тых, хто аказаўся на апошнім месцы. Такім прызёрам стала каманда «Ніка», дзе гулялі адны дзяўчаты. Нягледзячы на тое, што ім дасталося 9 месца, футбалісткі адгулялі ўсе гульні. Ва ўзнагароду яны атрымалі салодкі прыз.

А прыгажуням з «Вікторыі» на сцэну давялося выходзіць некалькі разоў, таму што, акрамя галоўнага, ім быў уручаны яшчэ адзін прыз - за мужнасць.

Так, як сказаў Аляксандр Лядзінскі, дзяўчаты заслугоўваюць такога прыза, бо да пераможнага фінішу яны ішлі, нягледзячы ні на што: ні на насмешкі сваіх сапернікаў, ні на ўсялякія цяжкасці.

Ну а самы незвычайны і самы цікавы прыз, абаранкі, дастаўся членам адразу дзвюх каманд: «Арсенал» і «Ух!», якія быццам бы і пачыналі гульню, але не дагулялі.

А наогул, у арганізатараў турніру па міні-футболу, як і ў іх спонсараў, ёсць добрая задума - зрабіць гэтае мерапрыемства вялікім раённым спартыўным святам.

Пасля падвядзення вынікаў і ўручэння ўзнагарод прысутныя прагледзелі мастацкі і дакументальны фільмы на афганскую тэму.

**Ірына КАСЦЕВІЧ.**

СПОРТ

## ПАМЯЦІ НАСТАЎНІКА

У спартыўнай зале Чарнянскай сярэдняй школы прайшоў традыцыйны турнір па валейболу, прысвечаны памяці настаўніка фізкультуры Івана Міхайлавіча Ігнацюка. У ім прынялі ўдзел 5 каманд. Выйграўшы ўсе сустрэчы, пераможцай турніру стала каманда «Ветэран» з Маларыты. На другім месцы былі гаспадары спаборніцтваў - валейбалісты калгаса імя Крупскай. Трэцяе - у каманды калгаса «Перамога». Наступныя месцы занялі валейбалісты ПТВ-155 і калгаса «Запаветы Леніна». Пераможцы і прызёры былі ўзнагароджаны дыпломамі, вымпеламі і грашовымі прэміямі. Адзначаны былі і лепшыя ігракі ў першых трох камандах. Імі сталі Раман Каўтанюк («Ветэраны»), Анатоль Баброўскі, (калгас імя Крупскай) і Валерый Шух (калгас «Перамога»). Турнір завершаны, але на будучы год было выказана самімі ж удзельнікамі пажаданне накont таго, каб і мясцовыя ўлады не заставаліся ўбаку, а выступілі б у якасці спонсараў гэтага цікавага турніру.

## ЦЁПЛЫ ПРЫЁМ І ІНТРЫГІ Ў ЛАНСКОЙ

У апошні час прыкметна ажывілася спартыўная работа ў вёсцы. Пацвярджэннем гэтаму стаў турнір па міні-футболу, які зусім нядаўна прайшоў у спартыўнай зале Ланскай сярэдняй школы. У госці да дзвюх мясцовых каманд прыехалі навучэнцы ПТВ-155, якія таксама выставілі два саставы і жаночыя каманды «Вікторыя» і «Ніка». Выступленне дзяўчат выклікала вялікую цікавасць у мясцовых балельшчыкаў, якія ўпершыню сутыкнуліся з жаночым футболам. Турнір аказаўся незвычайна напружаным і інтрыгуючым. Толькі ў апошнім туры выявіўся пераможца. Ім стала каманда «Дрым Цім Ветэраны», за якую выступалі ў асноўным настаўнікі мясцовых школ. А вось на другое месца прэтэндавалі першая каманда ПТВ-155 і Ланскай школы. Дзякуючы перамозе ў асабістай сустрэчы вышэй аказаліся футбалісты з вучылішча. Лепшым варатаром быў прызнаны Дзмітрый Толсцікаў (ПТВ-2). Таксама былі ўзнагароджаны Пётр Алесік (Ланская школа) і Аляксандр Азярчук (ПТВ-1).

Асобным радком хацелася б адзначыць і спонсара - Ланскую сярэднюю школу, якая падрыхтавала нядрэнныя прызы для пераможцаў.

## ШАХМАТНЫЯ БАТАЛІІ

Незвычайную цікавасць выклікаў чэмпіянат раёна па шахматах, які нядаўна завяршыўся ў шахматна-шашачным клубе ПТВ-155.

Адразу 23 шахматысты селі за дошкі, каб выявіць мацнейшых. Вельмі прыемна было бачыць, як нароўні з ветэранамі гралі і зусім юныя школьнікі, паказваючы пры гэтым даволі нядрэнную гульню. Так, Яўген Луцык, Аляксандр Сярдзюк, Харытон Вярчук змаглі размясціцца ў табліцы з 5 па 7 месца, сумеўшы абыйсці намнога вопытнейшых ігракоў. У сярэдзіне турнірнай табліцы завяршыла турнір і адзіная прадстаўніца цудоўнага полу Аксана Яцура, якая змагла абыграць нават Дзмітрыя Берліна.

Упершыню за апошнія гады ў традыцыйныя спрэчкі за званне чэмпіёна ўмяшаўся і трэці ігрок. Ім стаў Уладзімір Араноўскі, які змог абыграць абодвух канкурэнтаў і стаць упершыню чэмпіёнам раёна. Гэты шахматыст зусім нядаўна прыехаў на жыхарства ў наш горад, і тым больш прыемна, што ў нас з'явіўся яшчэ адзін моцны ігрок. Другое месца ў Эраста Закірава, на трэцім - Дзмітрый Берлін.

Пераможца і прызёры былі ўзнагароджаны дыпломамі, медалямі, грашовай прэміяй райспорткамітэта.

## НЕ ЗМЯНІЛІ ТРАДЫЦЫІ

Напярэдадні Новага года была адроджана традыцыя па правядзенні марафонскага прабегу па маршруце Брэст-Маларыта. На гэты раз ініцыятыва належала брэсцкім марафонцам. 28 снежня роўна ў 9 гадзін раніцы стартавалі ад абласнога Палаца прафсаюзаў 5 удзельнікаў гэтага прабегу. Гэта Віталь Гуга, Анатоль Молеў, Анатоль Будыхін, Герман Аўсянік і Іван Барташ. Усе яны - прадстаўнікі самых розных слаёў насельніцтва. Ёсць сярод іх і супрацоўнікі міліцыі, і выкладчыкі ВНУ, і інш.

Роўна 4,5 гадзіны патрэбавалася ім, каб паспяхова прабегчы 50 кіламетраў і фінішаваць ужо на цэнтральнай плошчы нашага горада. Як расказвалі самі ўдзельнікі, ім было прыемна тое, што нашы гараджане цёпла іх сустракалі, падыходзілі і віншавалі з паспяховым фінішам.

Шкада толькі, што гэты прабег не прыцягнуў увагі мясцовых улад, ды з Маларыцкіх бегуноў гасцей сустракаў толькі адзін прадстаўнік. А наш горад жа заўсёды вызначаўся і вызначаецца асаблівай гасціннасцю.

**Аляксандр ЛЯДЗІНСКІ.**



***Надвор'е сёлетняй зімой зменлівае: то снег ідзе, то дождж...***

**Фотаэцюд Аляксея ГАНЧУКА.**

"ГОЛАС ЧАСУ"
ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Маларыцкі раённы Савет дэпутатаў, раённы выканаўчы камітэт, калектыў рэдакцыі газеты "Голас часу".
Рэгістр. № 423

НАШ АДРАС:
225910, г.Маларыта, вул. Кастрычніцкая, 20.
ТЭЛЕФОНЫ: рэдактара -- 23-3-51, адказнага сакратара -- 23-3-00, карэспандэнтаў -- 22-8-96, бухгалтэрыі (прыём аб'яў) --22-2-20.

Думкі аўтараў апублікаваных матэрыялаў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку дыскусіі, абмеркавання.

Рэдактар Віталь МІГАЛЕВІЧ.

Газета набрана і звярстана на настольна - выдавецкай сістэме (225910, г.Маларыта, вул.Кастрычніцкая, 20).
Аддрукавана афсетным спосабам у Брэсцкай друкарні ўпраўлення па друку аблвыканкама (224637, г.Брэст-30, вул.Маскоўская, 75). Выходзіць у сераду і суботу.
Індэкс 63953, аб'ём - 1 друкаваны аркуш, фармат А3.
ЗАКАЗ 47 ТЫРАЖ 2770
Падпісана да друку 11:20 9.01.98